

# Колькі год жылі нашы продкі ў старажытнасці?

## Магілёў: даўніна і сучаснасць

### Гістарычны агляд І.Марзалюка

Жыццё нашых продкаў праходзіла ў значна больш складаных умовах, чым нашы. Голад і эпідэміі паралізавалі жыццё гарадоў і цэлых тэрыторый краіны. Па падліках В.Грыцкевіча эпідэмічныя гады адзначаліся на Беларусі ў XI-XV стст. не меней 29, а ў XVI-XVIII стст. — не меней 81 раза.

Натуральна, што такое становішча спраў не магло не адбівацца на працягласці жыцця. У другой палове 1 тысячагоддзя сярэдняя працягласць жыцця ўсходніх славян складала 36,5 год. У магільніку XI-XII стст. пры Чавускім селішчы (побач з горадам Чавусы Магілёўскай вобласці) у двух пахаваннях былі пахаваны дзеці 8-9 год, а ў сямі — людзі ва ўзросце 30-35 год.

Ва ўмовах, калі літаральна праз некалькі год раз-пораз выбухалі эпідэміі, якія чаргаваліся з галоднымі гадамі ды войнамі, малаверагодна, каб яна значна ўзрасла ў XVI-XVIII стст. Так, у памёрлага ў 1656 г. магілёўскага лаўніка Мялешкі Галеевіча не засталося прамых спадчаннікаў, бо «...же так сынове, яко и цорка, на которых добра по отцу належали, з сего света зшодши».

Цікава адзначыць той факт, што ў асяродзі магілёўскіх гараджан XVII ст. была добра вядома «Ведомость о роках климатеричных» —астралагічныя парады аб найбольш спрыяльных і дрэнных днях для нараджэння дзіцяці. Лічылася, што «Детя, которое ся родит вднь самый новю, коротко живет; также и третяго дня по новю. А которое зась другого дня по новю, долгого бывает веку. А четвертаго дня нарожоное бывает слабое и песливое. А пятаго дня нарожоное — небезпечнаго житя. Шостого дня бывает хоровитое. Семаго дня долго жіючее. Осмаго дня в молодом веку з света сходит. Девятого дня слабое бывает и малое. Десятого дня от новю, детя зась на свет выходзячое, старости великое доходит. Адинанцаты небезпечны. Дванацатыи — мерныи век живота. Тринацатаго дня от новю детя на свет выходячое ежели до осмнацата будет жит, долго поживе. Четырнацатыи днь подеизроный. Пятнанцатыи днь долголетный. Шестнанцатыи и семнанцатыи — здравіе на теле бывает. Осемнацатыи непевного житія. Деветнанцатый также. Двадцатый сильное и долговечное. Двадцать первого непоцешный. Двадцать вторый мерный. Двадцат третій з хоробами часто будет бедится. Двадцат четвертыи злыи. Двадцат пятыи на силах шванкует. Двадцат шостый небезпечный. Двадцат семый мерныи век. Двадцат осмы также мерныи. Двадцат девятыи, на сходе мца розным хоробам подлегает и не трвалый».

Пісец, што перапісваў тэкст, змясціў пад ім глыбакадумную заўвагу: «Любо та обсерванція не ест евглие, которому бы конечне вирит, еднак не без рацыи астроліогове то выдалі і напісалі».

*25 студзеня споўнілася 60 год Уладзіміру Высоцкаму, аднаму з найвядомейшых паэтаў і песняроў Савецкай эпохі, продкі якога, дарэчы, выйшлі з Беларусі.*

**Уладзімір ВЫСОЦКІ**

## Выбар

Шлях ці труна? Ізгой ці небыццё?
Так, выбар небагаты перад намі.
Даруюць нам маруднае жыццё.
Мы з ім скаваны моцна кайданамі.
А нехта ўсё ж і выбраў наўздагад
З бязглуздай верай, як зачараваны.
Але ж ці то жыццё — што ў ланцугах?
Хіба ж то выбар — калі ты скаваны?
Каварная спагада нам такая,
Як зелле ведзьмы ці як міражы.
Смерць ад сваіх выглядвае з-за камня.
І ззаду — смерць, але ўжо ад чужых!
Здранцвела цела, ссохлася душа.
І мы маўчым, як падстаўныя пешкі.
А ў лабавым шкле бачна не шаша,
А ганьбы выскал і крывыя ўсмешкі.
Калі б аковы тыя разарваць,
Той й горла перагрызці не замнога
Таму, хто здагадаўся прыкаваць
Нас ланцугамі да жыцця такога.
Няўжо мы спадзяемся шчэ на штосьці?
Ці, можа, нам ланцуг не па зубах?
Чаму ж у браму раю аж да млосці
Мы стукаем па кованых скабах?
Канчаць вайну?! — Якое адкрыццё!
Але ж цану якую закруцілі!
Нам прапануюць доўгае жыццё
Ў віне, брыдоце, здрадзе, ганьбе, гнілі.
Ці ж вартае жыццё такой цаны?
Дарозе не канец яшчэ — спакойна!
Паўзбоч тае — Вялікае — вайны
Яшчэ магчыма паміраць прыстойна!
І рана змешваць нас з балотнай тванню!
Мы гнёздаў сабе ў гнілі не саўем!
Мы не памром пакутным існаваннем!
Мы лепш надзейнай смерцю ажывём!

**Пераклаў з расійскай Міхась Булавацкі**

**Перакладчык шукае спонсара на выданне зборніка Ул. Высоцкага на беларускай мове. Тэлефануйце: 22-70-51.**

**У абласной выставачнай зале** Саюза мастакоў (на Болдзіна) працягвае збіраць наведвальнікаў персанальная дэманстрацыя мастацкіх твораў магіляўчаніна Аляксандра Суворава, якая пачалася напрыканцы мінулага года. СЁМАЕ ВЫМЯРЭННЕ — такі філязоўска-лірычны назоў даў сваёй выставе сам знакаміты мастак. Сапраўды ён працуе ў рэалістычнай, але ж і крыху, як, пэўна, і трэба ў мастацтве, таемнай манэры. Ягоныя карціны вядуць нас да нечага быццам і блізкага, але нязведаннага, нябачанага раней, таму —трапяткога і хвалюючага. Ён піша ў зямной колернай гамме, блізкай да той, якой дзеліцца з намі сама прырода. Аднак за кожным мазком —уласнае, толькі яму прыналежнае бачанне свету і жыцця...

Пераказваць жывапіс словамі, на шчасце, няўдзячна і бязсэнсоўна. Выстава яшчэ адчыненая. Пераканайцеся самі ў тым, што ў нас ёсць мастакі не па адукацыі або занятку, аднолькава малюючыя бясконцыя «пейзажы» з дрэйцамі і лужынамі, а тыя, хто сам з творчым здіўленнем кожны раз нанова адчыняе для сябе і для нас свет — і навакольны, і ўнутраны. Спецыяльна для вас яшчэ раз пазначаем адрас, падзею і імя: вул. Болдзіна, персанальная выстава, АЛЯКСАНДР СУВОРАЎ.

**Магчыма, што узгадка Беларускага мастацкага ліцэя,** што ў Менску, многім чытачам ні аб чым не скажа. Аднак мы не маглі прамаўчаць аб ім з нагоды 35-годдзя, якое гэтая навучальная ўстанова днямі адзначала. Установа за гады настойлівай работы дала развіцца таленту многіх творчых асобаў роднай краіны. А яны ў сваю чаргу робяць нашае жыццё прыгожым, духоўным, усвядомленым. І, не апошняя справа, славяць сваім мастацтвам нашу Беларусь за межамі. Сярод вядомых навучэнцаў ліцэя немала магілёўцаў: Галіна і Уладзімір Конанавы, Марыя Таболіч, Рыгор Шараеў, Васіль Камароў, Марына і Юрась Несцюракі. Ліцэй, які здаўна, дарэчы намаганнямі Рыгора Шырмы, выкладае і ва ўсім працуе на роднай мове, быў і застаецца асяродкам захоўвання і развіцця беларускага мастацкага характару і духу ў самых розных галінах творчасці: жывапісу і скульптуры, музыцы і тэатра. Хай і застанецца так назаўсёды.

**Алесь ТАБОЛІЧ.**

## КУЛЬТУРНІЦКІЯ НАВІНЫ



## Адказы на крыжаслоў, апублікаваны ў мінулым (31) нумары газеты «Тыднеўік Магілеўскі»

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 7. Прыцемак. 8. Рыштунак. 11. Спёка. 12. Абраз. 13. Слушнасць. 16. Падлік. 17. Склон. 18. Даніна. 21. Асавік. 22. Намець. 23. Брахун. 24. Вернік. 29. Кольца. 30. Корак. 31. Скабка. 35. Заўвадатар. 37. Сябар. 38. Калыл. 39. Дзянніца. 40. Сэрцайка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Прыпынак. 2. Уцёкі. 3. Матуля. 4. Мыліца. 5. Журба. 6. Гадавіна. 9. Рэшткі. 10. Кракос. 14. Цікавасць. 15. Чалеснікі. 19. Відук. 20. Памер. 25. Роўнядзь. 26. Лотаць. 27. Пашана. 28. Скарынка. 32. Ласіца. 33. Гарсэт. 34. Багна. 36. Камаш.



## Перакладзіце на беларускую мову

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 7. Старье. 8. Родинка. 9. Хлопанье. 10. Культяпка. 11. Вертел. 14. Недоверчивый человек. 17. Тетерев. 18. Матушка, мамочка. 19. Ухажер. 21. Ссора, грызня. 25. Иностранец. 28. Удар грома. 29. Ковер. 30. Челн. 31. Молодой сосновый лес. 32. Употребление.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Мужание. 2. Брусья. 3. Крепость, прочность. 4. Простак. 5. Бросок. 6. Сквозняк. 12. Мечтание. 13. Питомец. 15. Горемыка. 16. Уклон. 20. Обязанность. 22. Наименование. 23. Пища. 24. Недоросль. 26. Юмор. 27. Почет.




Рэдактар Генадзь СУДНІК




Аналітычна-інфармацыйная газета, заснаваная Магілёўскай гарадской асацыяцыяй "КОЛА СЯБРОЎ".

*Зарэгістравана ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку за № 831.*

Газета выходзіць па пятніцах, пераважна на беларускай мове..

Кошт аднаго асобніка газэты ў тандлі праз сістэму Саюздруку — 3.000 рублёў. У свабодным продажы і ў грамадскіх распаўсюджвальнікаў — па дамоўленасці.



АДРАС РЭДАКЦЫІ: 212030 г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

ТЭЛЕФОНЫ: 31-04-15, 22-97-82



Газета набрана і надрукавана афсетным спосабам у Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М.Свярдлова. Зак. 1. Тыраж 1100 асобнікаў.